Цана асобнага нумару 20 грошаў.

Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.



# НАША ПРАЎДА

Выходзіць два разы у тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6 (Wileńska 12. m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3.

...адзін месяц з дастаўкай да хаты 50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр.

Непрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок петыту ў 1 шпальту.

№ 35 — Вільня, Серада 3-га жніуня 1927 г. — Год I

## Скарыстайма з нагоды!

Канчаецца лета, і цераз месяц — 1 верасьня — пачнецца ўжо навука ў школах.

Але не для ўсіх дзень гэны зьяўляецца днём радасьці: для нас, беларусаў, для бацькоў і дзяцей, дзень 1-га верасьня зьяўляецца *днём нацыянальнага суму*. Бо-ж для нас у Польскім гаспадарстве — ня гледзячы на так-званыя „языковыя законы" аб школах, выданыя 31 ліпня 1924 году,—усе яшчэ нямашака ўрадавых школаў у роднай беларускай мове, хоць народ падаваў дзесяткі тысячаў дэклярацыяў з дамаганьнем беларускае школы. І вось, на падставе гэных ліпнёвых законаў вось ужо тры гады мы дарэмна чакаем на сваю беларускую дзяржаўную школу, — але школы гэнае нам не даюць, а затое прымушаюць запісываць і пасылаць дзетак нашых у чужую, нялюбую ім *польскую* ўрадавую школу.

Гэтак закон, які хоць у зусім малой меры мае *здаваляць* нашыя культурна-нацыянальныя патрэбы й дамаганьні, — на дзеле да нас *не тасуецца*. Затое закон аб школьным прымусе, які—пры адсутнасьці беларускіх урадавых (ды навет прыватных!) школаў, прадугледжаных ліпнёвымі законамі, — зьяўляецца *пагвалчэньнем нашага права на навуку ў роднай мове*,—о, гэты закон праводзіцца ў жыцьцё няўхільна, і кожнага, хто не паслухаецца ягонага загаду, чакае *суровая кара*!

Ясна, што з такім палажэньнем справы ня можа пагадзіцца ніводзін сьвядомы беларус. На-жаль, мала хто ведае, як і што ён павінен рабіць, каб дабіцца зьдзейсьненьня свайго бясспрэчнага і неад'емнага права мець навуку ў роднай мове. Вось мы й хочам тут падаць адзін з такіх спосабаў ходаньня за беларускую ўрадовую школу.

Звычайна бывае так: у канцы году, за пару месяцаў да апошняга тэрміну, вызначанага законам (31 сьнежня), адбываецца масавая падача школьным інспэктаром дэклярацыяў з дамаганьнем беларускае школы. Дэклярацыі гэныя, нажаль, і па сяньняшні дзень ляжаць бяз руху. Але людзі, якія іх падалі, лічаць, што яны свой абавязак выпаўнілі і могуць на тым супакоіцца... Дык-жа не: не супакоіцца трэба, не чакаць „манны з неба", а на кожным кроку й бясспынна мусім дамагацца свайго, трэбаваць адчыненьня беларускіх школаў, рабіць адпаведныя пастановы на сходах, мітынгах, паседжаньнях самаўрадаў і г. д. А ці-ж не найбольш падыходзе дзеля такіх масавых выступленьняў *мамэнт запісу дзяцей у школы*—да 1 верасьня? Ці-ж ня ясна, што іменна ў гэты мамэнт мы мусім *узнавіць наш націск на ўладу*, каб дала нам тое, што паводле польскіх-жа законаў нам *бясспрэчна належыцца*?

Дык-жа ўсе бацькі, якія падавалі ў свой час дэклярацыі на *беларускую* школу, а цяпяр *прымушаны* слаць дзетак у польскую, бо беларускіх урад не адчыняе,—усе павінны пры запісах дзяцей дзеля навукі *падаваць заявы*, сьцьвярджаючы сваю *нязломную волю вучыць дзяцей пабеларуску*, як тое пісалі і ў дэклярацыях. Як, у якой форме гэта трэба рабіць,—хай растлумача Галоўная Управа Т-ва Беларускае Школы, якая-ж на тое і пастаўлена, каб кіраваць акцыяй беларускіх масаў на карысьць роднае школы. Мы тутака кідаем адно толькі думку, адно нераспрацаваны праект: *выкарыстаць мамэнт школьных запісаў дзеля пратэсту* проці поўнае няўважлівасьці польскага ўраду як да волі беларускіх дэклярантаў, так і да тых польскіх-жа законаў, якія—хоць у карыкатурнай форме—ўсё-ж суляць беларускаму насяленьню навуку ў роднай мове.

Хай беларускія масы скарыстаюць з добрае нагоды, каб лішні раз *выявіць сваю волю*!

## У кітайскім катле.

### Крытычнае палажэньне Чанг-Кай-Шэка.

Палажэньне Чанг-Кай-Шэка становіцца з дня на дзень усё больш крытычным. Арміі Чанг-Чунг-Чанга і Сун-Чуан-Фанга зрабілі надзвычайныя пасьпехі. Паводле надыйшоўшых вестак, арміі Чанг-Кай-Шэка ня толькі выгнаны з Шантунгу, але пакінулі амаль бяз бою і паўночную частку правінцыі Кіянг Су паўночным генералам. Як паведамляе „Таймс", Сун-Чуан-Фанг заняў чыгуначны вузел Пэнгфу—ў адлежнасьці толькі каля 200 кіл. на поўнач ад Нанкіну, сталіцы Чанг-Кай-Шэка. Адначасна наступае адна армія Суна на Чынкіянг, у 90 кілям. на ўсход ад Нанкіну. З другога боку, армія Ханькоўскага ўраду пад камандай Чэнг-Чына, якая наступае на Нанкін, перайшла граніцу правінцыі Чэкіянг. Але мэтай гэтай арміі, здаецца, зьяўляецца ня Нанкін, але Шанхай. Гэткім чынам Шанхай зноў можа стацца галоўным вогнішчам грамадзкай вайны ў Кітаі.

Далейшыя тэлеграмы Рэйтэра паведамляюць аб зрыве перагавораў між Чанг-Тсо-Лінам і Чанг-Кай-Шэкам. Затое дайшло да паразуменьня між Чанг Тсо-Лінам і Ен-Сі-Танам, які з'абавязаўся затрымаць чырвонага гэнарала Фэнга ў яго наступе на Пэкін.

У зрыве перагавораў між Чанг-Кай-Шэкам і Чанг-Тсо-Лінам вінаваты апошні, які хоча выкарыстаць цяжкае палажэньне Чанг-Кай-Шэка дзеля палепшаньня свайго ўласнага.

Арміі Ханькоўскага ўраду двумя калёнамі наступаюць на Чанг-Кай-Шэка. Адна армія ідзе ўздоўж даліны Ян-Тсэ, другая ж ідзе праз Чэ-Кіянг проста на Шанхай. Гэткім чынам Чанг-Кай-Шэк прымушаны падзяліць сваю армію на тры группы.

Яго палажэньне робіцца тым больш крытычным, што ён мусіць отрымаць бязупынна наступаючых паўночных генералаў, калі ня хоча дапусьціць да заняцьця імі Чэ-Кіянга на Ян-Тсэ і перарыву гэтым чыгуначнага шляху Нанкін-Шанхай. У гэткіх абставінах сумліўна, ці ўдасцца Чанг-Кай-Шэку адкінуць назад арміі Ханькоўскага ўраду і не дапусьціць да пераходу паўночнымі арміямі ракі Ян-Тсэ.

З гэтых вестак мы бачым, што Англійска-Японскае паразуменьне сарвалася. Бачым таксама, які ўплыў зрабіў гэты зрыў на ход падзей у Кітаі.

## Канфэрэнцыя Трох.

Ужо некалькі тыдняў ідзе торг у Жэнэве на так званай канфэрэнцыі па марскому разбраеньню між Англіяй. Амэрыкай і Японіяй і дагэтуль няма жадных ад яе вынікаў. Мала таго, па апошніх вестках канфэрэнцыя стаіць на пярэдадні свайго развалу. Аб чым-жа там ідзе торг і чаму ўчасьнікі ня могуць згаварыцца?

На гэтыя пытаньні пастараемся даць у гэтым артыкуле адказ.

Перадусім разгледзім фармальны бок гэтай справы. Вось-жа той падводнай скалай, аб якую гразіць разьбіцца марская канфэрэнцыя, зьяўляецца пытаньне крэйсараў, якое разьдзяляецца на наступныя пункты:

1) лік вялікіх крэйсараў для кожнай дзяржавы,

2) танаж (ёмкасьць у тонах) *) малых і іх узбраеньне,

3) агульны танаж крэйсараў для кожнай дзяржавы.

Спачатку разгледзім пазыцыю, якую занялі Японія і Англія ў гэтай справе. Японія запрапанавала наступны падзел між дзяржавамі вялікіх крэйсэраў: для Англіі і Амэрыкі па 10 крэйсэраў для кожнай з танажам у 10 тысяч тон для паасобнага крэйсэра і 7 такіх-жа крэйсэраў для сябе. Што да агульнага танажу ўсіх крэйсэраў і іх падзелу, Японія ўнясла прапазіцыю: для Англіі і Амэрыкі па 450 тысяч тон для кожнай, а для сябе 300 тысяч. Англія ня толькі прыняла гэтую прапазіцыю, але, ідучы на сустрэчу Японіі ў жаданьні захаваць сваё узбраеньне, шмат вышэйшае чым дазваляе Вашынгтонская ўмова, павысіла яшчэ гэтыя цыфры. Згодна з ангельскай прапазіцыяй, Амэрыка і Англія павінны былі б мець па 12 вялікіх крэйсэраў, а Японія 8. Агульны танаж крэйсэраў для Амэрыкі і Англіі па 500 тысяч, Японіі 325. Высоўваючы ўжо ў свой чарод пытаньне аб узбраеньні лёгкіх крэйсэраў і іх танажу, Англія прапануе $6^{1}/_{2}$ тысяч тон для лёгкага крэйсэра і гарматы калібрам у 15 сантымэтраў. Па інфармацыях, якія зьявіліся ў прэсе, Японія адняслася прыхільна і да апошняй прапазіцыі.

Але вось Амэрыка, калі ў папярэдніх пытаньнях яшчэ таргавалася, дык у гэтым пытаньні стала проста на дыбы, рашуча дабіваючыся 20 сантымэтравых гарматаў на лёгкіх крэйсэрах і $7^{1}/_{2}$ тысяч танажу. Англія выступіла тады з заявай, што тады лёгкія крэйсэры перастаюць быць абароннай зброяй, а становяцца засобам нападу і дзеля гэтага яна ня можа пагадзіцца з гэтай прапазіцыяй. Гэтае надзвычайнае міралюбства ангельскай акулы стане зразумелым, калі мы прымем пад увагу, што Англія мае вялізарны, найбольшы ў сьвеце гандлёвы флёт, які ў часе вайны вельмі лёгка ўзброіць 15 сантымэтравымі гарматамі. Ясна, з некалькімі крэйсэрамі ў $6^{1}/_{2}$ тысяч тон, узбраенымі 15 сант. гарматамі, доўга і далёка не паскачаш. Тут то і стала „канфэрэнцыя па марскому разбраеньню" на мертвым пункце.

Чым-жа выкліканы гэны торг? Чым выклікана гэтая няўступнасьць з боку Амэрыкі і гэты супольны дагэтуль фронт Англіі і Японіі на канфэрэнцыі? Каб адказаць на гэтыя пытаньні, мусім спыніцца на некаторых мамэнтах сусьветнай эканомікі, вынікам і выразам якіх зьяўляецца і гэтая палітычная барацьба ў Жэнэве, барацьба за валаданьне на моры наагул і асабліва за Ціхі акеян.

Гэтая барацьба выклікана перадусім англа-афрыканска-японскай барацьбой за рынкі збыту на Ціхім акеяне, гэта значыць за аўстралійскі і кітайскі рынак.

Як ведама, Амэрыка і Японія сільна выцесьнілі Англію ў часе сусьветнай вайны з кітайскіх і аўстралійскіх рынкаў. Для Англіі справіцца з японскай канкурэнцыяй эканамічным шляхам не зьяўляецца немагчымым. Сільныя пазіцыі займае Японія толькі на мануфактурным рынку. Брак-жа ўласнага апалу—каменнага вугля і фінансаў ставяць дагэтуль маладую японскую прамысловасьць у цяжкія варункі канкурэнцыі. Так, напрыклад, на поле мэталюргічных вырабаў яна амаль-што пазбаўлена магчымасьці канкураваць.

Інакш стаіць справа з другім магутным і грозным канкурэнтам Англіі—Амэрыкай, з якім справіцца эканамічным шляхам амаль-што немагчыма, каб не сказаць больш. Вось-жа тут, Англія рыхтуецца сілай аружжа павяліць свайго грознага канкурэнта. Справа ў тым, што Амэрыка ня толькі мае ў сябе ў хаце пад дастаткам вугля, газы, воднай сілы, але і ўсе патрэбныя для прамысловасьці сыравіны, як руды розных мэталаў, хлопак, шэрсьць, чаго на мейсцы Англія ня мае. Для поўнага малюнку трэба яшчэ дадаць, што Амэрыка валадае найвялікшым ў сьвеце запасам золата, ды яшчэ да ўсяго гэтага ляжыць бліжэй за Англію да важнейшых рынкаў апошняй, як Кітай Аўстралія, Канада.

У Канадзе справа дайшла да таго, што Амэрыка ўжо далёка абагнала Англію. Таргаовыя звароты Канады куды вялікшыя з сваім беспасярэднім суседам, чым з сваей

*) Тона = 1000 кілё = больш 61 пуда.

## Падвойная ігра.

Мы ўжо неаднакроць адзначалі, што фашызм—гэта нішто іншае, як спроба ратаваць капіталістычны лад, крэпа расхістаны сусьветнай вайной і ўзростам актыўнасьці працоўных масаў у капіталістычных гаспадарствах. Так было ў бацькаўшчыне фашызму—далёкай ад нас Італіі, так ёсьць і ў Літве, якая зьяўляецца нашай найбліжэйшай суседкай.

У Літве найвялікшым ударам панаваньню капіталізму сталася радыкальная зямельная рэформа. Беспасярэдня ўдар гэты разьбіў вялікую зямельную ўласнасьць і пазбавіў яе тых вялізарных палітычных уплываў, якія заўсёды мелі і маюць абшарнікі, дзякуючы свайму сацыяльнаму палажэньню. Да 1 студзеня 1927 году ў Літве распарцэлявана між сялянамі 2.400 панскіх двароў (агульны абшар—паўміл'ёна гэктараў), і, калі-б ход зямельнае рэформы й далей меў гэткі самы тэмп, дык хутка ўплывам абшарніцтва ў Літве пагражала бы нямінучая сьмерць. Але вось уладу ў Літве захапілі ў свае рукі фашысты, і зямельная рэформа, як сьцьвярдзіў публічна госьць з Літвы, праф. Гэрбачэўскі, прыпынена на неазначаны час. Так фашысты ратуюць ад зьніштажэньня „сваё" абшарніцтва....

Дый каб-жа йшчэ яно было запраўды сваім—літоўскім: тады крок ураду Вальдэмараса можна было бы разумець, як праяву літоўскага нацыяналізму, абапертага на буржуазнай ідэалёгіі. Але абшарнікі ў Літве—гэта (таксама, як і ў нас!) бадай выключна палякі. І ў спыненьні правядзеньня да канца зямельнае рэформы ў Літве мы павінны бачыць крок не нацыянальнае, а чыста сацыяльнае палітыкі літоўскага фашызму.

Гэта і ёсьць выраўніваньне сацыяльнага фроту фашыстаўскай Літвы — з Польшчай п. п. Пілсудскага, Дашыньскага і Мэйштовіча, якая мэтай сваей палітыкі лічыць захаваньне за ўсякую цану існуючае ў ёй сягоньня „сацыяльнае раўнавагі". І праф. Гэрбачэўскі не дарма ў сваім інтэрвью (гутарцы) з прадстаўніком польскае поўафіцыяльнае часопісі „Epoka" заяўляе, што ўрад п. Вальдэмараса сьвядома „імкнецца да здабыцьця сымпатыяў кансэрватыўнага абшарніцтва",—акурат так сама, як гэта робіць марш. Пілсудскі, езьдзячы па Нясьвіжам і ўводзячы ў склад свайго ўраду ведамых „зубраў"—п. п. Мэйштовічаў і Незабытоўскіх: фашыстаўская ўлада Літвы ясна хоча выкарыстаць „сваё" польскае абшарніцтва, як „залаты мост" дзеля аб'яднаньня Літвы з Польшчай. На тое-ж, як мы ўсьцяж адзначаем, і зроблены ў Літве фашыстаўскі пераварот....

„Выраўняўшы сацыяльны фронт" з сучаснай Польшчай, літоўскі прэм'ер Вальдэмарас, як падавала замежная прэса, распачаў—пры пасрэдніцтве Англіі — нейкія тайныя перагаворы з тайнымі эмісарамі ўраду п. Пілсудскага. Ня ведаем, ці яны тамака да нечага канкрэтнага дагаварыліся. Але вось на нашых вачох зроблены новы крок, які паказуе, што фашыстаўская Літва хоча падгатаваць прыхільную для сябе атмасфэру ў Грамадзянстве Польшчы. Прыезд у Польшчу літоўскага прафэсара Гэрбачэўскага — доказ гэтага: сам ён заяўляе, што: 1) прыехаў ён у Польшчу з ведама прэм'ера Вальдэмараса і іншых міністраў, ды навет ведаў аб гэтым і прэзыдэнт Літвы Смэтона (фашыстаўскі!); 2) меў на мэце „хораша гаварыць аб сваім урадзе" і зрабіць тое, каб „аб Літве і літвінох польская прэса пачала харашэй пісаць"; 3) што ён вельмі дзівіцца, чаму пасьля гэтага п. Вальдэмарас дапускае, каб літоўская ўрадавая прэса лаяла яго, Гэрбачэўскага, за ягоную акцыю ў Польшчы, бо-ж гэтым самым пан прэм'ер пазваляе гэтай-жа прэсе „дыскрэдытаваць сябе самога ў вачах мысьлячае Эўропы"....

З заяваў праф. Гэрбачэўскага ясна віДаць, што: „мысьлячая Эўропа", пэўне ж, націскае на Літву, каб кінулася ў абоймы Польшчы, „выраўняўшы сацыяльны фронт" з ёй паводле рэцэпту... п. Мэйштовіча"! З гэтай мэтай праф. Гэрбачэўскі „хораша гаворыць" у Польшчы аб панох літоўскіх фашыстах, якія навет аграрную рэформу спынілі, каб мець магчымасьць „збратацца" з польскай рэакцыяй. Што і польская прэса з мэтай аблягчэньня гэнага „братаньня" пачала „хораша пісаць аб Літве і літвінох". І толькі літоўскі народ такі „няўдзячны", што праціўіцца гэнаму „братаньню", а дзеля гэтага пан Вальдэмарас, падпісываючы аднэй рукой пашпарт на выезд у Польшчу для праф. Гэрбачэўскага, другой рукой піша ў сваей прэсе лаючыя таго-ж праф. Гэрбачэўскага стацьці, каб укрыць перад „няўдзячным народам" сваю палітычную ігру....

Ці доўга ўдасцца вясьці такую „падвойную бухгальтэрыю"? Ну, гэта будзе залежаць хіба ня гэтулькі ад волі „няўдзячнага" літоўскага народу, колькі ад... „зьвіняччага падмацунку" з боку тых, хто пасадзіў у Літве фашыстаўскі ўрад!

**К. Ф.**

мэтраполіяй — Англіяй. Ня лепш, а навет горш, стаіць справа з капітальнымі ўкладамі.

Ня шмат лепшы стан, а асабліва пэрспэктывы і на іншых ціхаакеянскіх рынках.

Ясна, што такі ход рэчаў надалей для ангельскай буржуазіі немагчымы, несьцярпімы і што толькі сілай аружжа яна можа перамагчы гэтага свайго канкурэнта, як гэта яна на нашых вачох ды нашай кроўю і зрабіла з Нямеччынай.

З другога боку і Амэрыка мае свае повады для барацьбы з Англіяй. Перадусім справа ў тым, што амэрыканскія капіталісты выпампоўваюць больш 70 прац. сусьветнай здабычы газы з яе амэрыканскіх залежаў. Па падлікам вучоных пры гэтакай эксплёатацыі газа вычарпаецца ў працягу 30 гадоў з нечым. Ясна, што амэрыканскія капіталісты мусяць паклапаціцца аб новых крыніцах яе. Тут, аднак, заскочылі ім наперад іх ангельскія калегі, якія пад фірмамі розных кампаньняў Рояль Дутш, Пэрсіян Ёль і інш. захапілі ў свае рукі амаль ня ўсе газаносныя землі на ўсім сьвеце, ня вельмі эксплёатуючы іх, але дзяржучы пры сабе. Ясна, вырваць іх трэба, а вырваць тут можна толькі аружжам, вайной.

Другім яблыкам, на якое зарацца амэрыканскія капіталісты, зьяўляецца каўчукавы манаполь Англіі. Больш 90 прац. сусьветнай здабычы гумы праходзіць праз рукі англійскай кампаніі. Амэрыка-ж зьяўляецца найбольшым у сьвеце спажыўцам каўчуку. Ясна, як пры гэтым стрыгуць Амэрыку англійскія капіталісты. Дайшло навет да таго, што англійцы прыдумалі сплачваць свае ваенныя даўгі Амэрыцы, узьвінціўшы проста-напроста цэны на каўчук. Няма і году, як урад амэрыканскіх капіталістаў дыплёматычнай нотай запатрабаваў ад гэткага-ж англійскага ўраду... зьніжэньня цэн на каўчук. Гэта гістарычны факт.

Ня чуючы сябе на сілах пасьля нядаўняй сусьветнай бойні і баючыся яе, дакуль іствуе СССР, англійскія капіталісты рашылі чакаць лепшых часоў, каб зьвесьці ў блізкай будучыні аружжам свае разрахункі з амэрыканскімі калегамі; тым-жа часам падцялі хвост,—і ўступілі. Вось які вялікі рад няпрымірымых пры капіталістычным ладзе супярэчнасьцяў ляжыць у самай аснове англа-амэрыканскіх узаемаадносін. Вайна між імі няўхільна.

Жэнэўская-ж канфэрэнцыя не займаецца, як мы бачым, вырашэньнем ці навет залагоджаньня гэтых супярэчнасьцяў, бо навет і гэта ў капіталістычным ладзе тут не магчыма. Не! Аб гэтым там навет гутарак ня чуваць! На ёй не ўстраняюць самых прычын збраеньняў, а стараюцца толькі стрымаць за лішне хуткі рост іх, дагаварыцца аб суадносінах іх, каб хоць гэткім чынам адцягнуць мамэнт народнай сусьветнай бойні да больш выгадных паном капіталістам для гэтай справы часоў. З гэтага боку жэнэўская канфэрэнцыя зусім падобна да тых, якія што год робіць Ліга Нацыі і якія служаць яшчэ мэце баламучаньня мас, усыпленьня іх, каб гэткім чынам тым лепш, тым грунтоўней прыгатаваць для іх новую крывавую лазьню, яшчэ страшнейшую, чым тая, з якой яны нядаўна вышлі. Але на Жэнэўскай Канфэрэнцыіі няма на гэта часу. Тут справа куды паважнейшая і пільнейшая, чым на нашых канфэрэнцыях эўрапэйскага маштабу і шматгадавых гутарак для ўсыпленьня мас не павядзеш.

Яны тут не патрэбны, няма на гэта часу.

Гэтак адказалі мы на пастаўленае намі пытаньне: які торг адбываецца ў Жэнэве і чым ён выклікан, а таксама—што ляжыць у яго аснове. Адказ на другое пытаньне: чым выклікана гэткая няўступнасьць з боку Амэрыкі, выцякае сам сабой з усяго вышэй сказанага. Тут пытаньне стаіць рабром: хто каго?! ці мы, ці яны?! Зяваць і папушчаць ня прыходзіцца.

Астаецца нам яшчэ даць адказ на трэцяе пытаньне: чым выкліканы супольны дагэтуль фронт між Англіяй і Японіяй на канфэрэнцыі?

Перадусім трэба зазначыць, што Японія за вельмі блізка ляжыць ля будучага тэатру вайны дый у дадатак на вастравох, каб ня быць уцягненай у яе. За вельмі шмат найважнейшых інтарэсаў Японіі будзе залежаць ад вынікаў гэтай вайны. Гэтым перадусім тлумачыцца й тое, што Японія ня блішчыць сваей адсутнасьцю на канфэрэнцыі, як Італія і Францыя, вялікія марскія дзяржавы на канфэрэнцыі марскога разбраеньня.

Але, каб адказаць на нашае пытаньне: чым выклікан супольны дагэтуль англійска-японскі фронт, мы прымушаны закрануць хоць у агульных рысах, балючыя пытаньні Японіі і суадносіны на Далекім Усходзе.

Самым балючым унутраньнім пытаньнем для Японіі зьяўляецца яе перанаселеннасьць. Японія надзвычай перанаселенная старонка і адносна да гушчыні насельніцтва з нявельмі разьвітай прамысловасьцю. У зьвязку з гэтым пытаньне аб эміграцыі зьяўляецца пытаньнем жыцьця і сьмерці для соцентысяч японскіх грамадзян.

Дасюль эміграцыя скіроўвалася галоўным чынам у Карэю, Аўстралію, Амэрыку і часткова ў Манджурыю. Галоўная хваля эмігрантаў кацілася ў Паўночную Амэрыку.

Але нядаўна прыняты амэрыканскім сэнатам закон амаль зусім зачыняе дзьверы Паўн. Амэрыкі японскім эмігрантам. Ясна, як гэта магло ўплынуць на японска-амэрыканскія адносіны. Зноў-жа японская буржуазія таксама добра ведае, што амэрыканскія калегі куды больш небясьпечны для яе за англійскіх. Яна добра разумее, што за англійцамі можна ёй з большымі шансамі на пасьпех цягацца. Справа з англійска-японскімі адносінамі не стаіць аднак так проста. Японцы не забыліся той ролі, якую згулялі англійцы на Вашынгтонскай канфэрэнцыі. З другога боку мы вышэй ужо бачылі, што і між Англіяй і Японіяй істнуюць немалыя супярэчнасьці. У гэткіх абставінах Японія не зацікаўлена ў значнай перавазе Англіі над Амэрыкай на моры, жадаючы захаваць за сабой вельмі выгаднае становішча таго чыньніка, які дае перавагу то аднэй то другой старане. Англію яна можа паддзержваць толькі да пэўных граніц. Вось жа і англійска-японскі фронт у Жэнэве ня вельмі пэўны і можа разваліцца, як толькі англійцы за шмат, на пагляд Японіі, зажадаюць.

Як-бы адносіны ў будучым не ўлажыліся, Японія аднак зацікаўлена ў сучасны мамэнт, перадусім у захаваньні і залегалізаваньні сваіх марскіх сілаў, якія яна за апошнія гады пабудавала супроць умоў Вашынгтонскай канфэрэнцыі, прадыктаваных ёй у сваім часе Англіяй у супалцы з Амэрыкай. Гэта, як мы ўжо ведаем, вельмі лоўка скарыстала на Жэнэўскай канфэрэнцыі Англія.

З другога боку Англія, апрача разьлікаў на Японію, як на магчымую саюзьніцу ў вайне з Амэрыкай, перасьледуе таксама і куды бліжэйшыя, канкрэтныя, можна сказаць падгатаваўчыя мэты, паддзержваючы на канфэрэнцыі японскія інтарэсы. Гэтымі мэтамі зьяўляецца перадусім жаданьне ізаляваць СССР на Далёкім Усходзе, а падругое забясьпечыць сябе ад паўторнай ізаляцыі ў Кітаі, у якой яна нядаўна апынулася, і здабыць паддзержку Японіі ў сваіх інтэрвэнцыйных плянах у Кітаі.

Як відаць з апошніх вестак дайшоўшых, з Кітаю, там ужо дайшло да паразуменьня між іхнімі наймітамі Чанг-Тсо-Лінам і Чанг-Кай-Шэкам, а дзеля гэтага няма й найменшага сумляваньня, што і між панамі яно настала і сфэры ўплыву падзелены. Што датычыць мэты ізаляцыі СССР, зьніштажэньне якой буржуазіі так патрэбна, каб зрабіць свае разрахункі, дык гэта тут адзначыць, што гэтым плянам Англіі, як ня трэба лепей, сударказывае актыўная палітыка сучаснага японскага ўраду, якую той вядзе ў Манжурыі (справа чыгункі) і Манголіі.

Гэткім чынам беспасярэдная пагроза англійскім і японскім валаданьням у Кітаі з боку кітайскай рэвалюцыі прычынілася таксама да англійска японскага зьбліжэньня ў Жэнэве. Вось які вялікі рад прычынаў прывёў да супольнага англійска-японскага фронту.

І так мы мусім сьцвердзіць, што сучаснае англійска-японскае паразуменьне куплена перадусім коштам Кітаю і зьяўляецца далейшым этапам абкружэньня СССР. Ня ведама аднак, ці дадзяржыцца гэтае англійска-японскае паразуменьне навет да канца Жэнэўскай канфэрэнцыі з прычын, якія мы вышэй у належным мейсцы разглядалі. Навет калі-б гэта і сталася, дык дыплёматычнае паражэньне Амэрыкі на скліканай ею канфэрэнцыі выразілася-б у першую чаргу ў павялічэньні цэрцяў і супярэчнасьцяў між імпэрыялістычнымі акуламі ў Кітаі.

Вялікае яшчэ пытаньне аднак, ці дайдзе навет да паразуменьня на даўжэйшы час між Англіяй і Японіяй на гэтай канфэрэнцыі з вядомых ужо нам прычын.

У выніку нашага разбору мусім адзначыць, што навет, калі і між імі трыма будзе дасягнута паразуменьне ў Жэнэве, дык гэта будзе не вырашэньнем самага канфлікту, а толькі часовым аддаленьнем яго разьвязкі, каб мець магчымасьць сканцэнтраваць усе сілы імпэрыялістычных дзяржаваў на Савецкім Пытаньні, а вырашыўшы яго пажаданым для сябе, калі ўдасца, спосабам, тым спакайней узяцца з свае парахункі.

Але на гэтае патройнае паразуменьне, як паказывае ход падзей па канфэрэнцыі, зусім мала шансаў, каб не сказаць болей. У кожным выпадку грамадзкая апінія працоўных павінна з вялікай увагай сьлядзіць за падзеямі на Жэнэўскай канфэрэнцыі. Якбы там ні шоў ход падзей, ён будзе мець вялікае значэньне можа быць і ў вельмі блізкай будучыне. Дык увага. **Сымон Б.**

**Ад Рэдакцыі.** Пападаная стацьця напісана да канца Канфэрэнцыі. Як відно будзе з вестак у „палітычнай хроніцы“ па данаму пытаньню — канфэрэнцыя напярэдадні разваліласся. Значыць, думкі аўтара аб запраўдных выніках канфэрэнцыі знайшлі сваё апраўданьне і падцьверджаньне навет раней, чым можна было спадзявацца.

# Палітычная хроніка.

## У Польшчы.

### Ці-ж ужо пачалося?

„Газ. Варш. Пор.“ падае вестку аб тым, што ў Варшаве разыйшліся чуткі, быццам падарожа марш. Пілсудскага ў Вільню мае сувязь з справай завязаньня беспасярэдніх польска літоўскіх перагавораў.

Як ведама,—кажа газэта,—у Коўні працуе інтэнсыўна ў гэтым кірунку англійская дыпляматыя, для якое дужа нявыгадна існаваньне нямецка-радавага мосту праз Літву, ды якая хацела бы дапамагчы сваім лясным прамыслоўцам, што сякуць Белавежскую пушчу, ды ня могуць сплаўляць нашых лясных скарбаў па Нёмне. Вось, англічане й хочуць пагадзіць Літву з Польшчай, каб дабіцца адчыненьня вольнага транспарту дрэва па Нёмне праз Літву аж да мора. У тым-жа кірунку, хоць і з іншымі мэтамі, працуе й француская дыпляматыя, ды дзеля гэтага езьдзіў у Коўну француські генерал Леронд.

Быццам існуюць падставы спадзявацца паразуменьня між Літвой і Польшчай на падставе такое ўгоды, якая прыкрывала-бы неяк адрачэньне Літвы ад свайго дамаганьня Вільні. Быццам і праф. Гэрбачэўскі вёў аб гэтым гутаркі ў Бэльвэдэры. Урад Вальдэмараса, знаходзячыся ў цяжкім палажэньні з прычыны апазыцыі блізу ўсіх партыяў, стараецца знайсьці падтрыманьне ў абшарнікаў Літвы (дадамо: палякоў!)—цаной прыпыненьня зямельнае рэформы. Дзеля гэтага-ж ён усё больш прыхіляецца да ўгоды з Польшчай.

### Фашысты ня сьпяць!

Польскія рэакцыянеры, якія маюць сувязь з урадам марш. Пілсудскага, — як падае эндэцкі лейб-орган „Gaz. Warsz. Poran.“,— націскаюць на ўрад, каб зрабіў „рэформу“ выбарнага закону ў законадаўчыя палаты паводле фашыстаўскага ўзору. Быццам робяцца крокі дзеля забясьпечаньня гэтым плянам спогаду марш. Пілсудскага, і з гэтай мэтай галава „нацыянальнае правіцы“ п. Тарноўскі пастараўся дабіцца прыёму ў Бэльвэдэры (палацу, дзе жыве прэм'ер)...

### Рух сярод урадоўцаў.

Рух сярод урадоўцаў і іншых працаўнікоў на дзяржаўнай службе, якія галадуюць пры ўсё ўзрастаючай дарагоўлі і дабіваюцца павялічэньня платы за сваю працу,— далей і далей пашыраецца.

Гэтак галоўная ўправа Саюзу Урадоўцаў Скарбовага Кантролю падала адпаведным міністрам мэморыял з цэлым радам дамаганьняў датычна паляпшэньня варункаў працы і платы. А ў тую пятніцу ў Варшаве адбыўся людны мітынг працаўнікоў дзяржаўных чыгунак, які запратэставаў проці пастановы міністэрства чыгунак вызначыць няштатным працоўнікам „рынковыя“ цэны за іх працу, куды ніжэйшыя за плату штатных служачых. Чыгуначнікі дамаюцца адначасна павялічэньня іх заробкаў наагул, датарнаваўшы іх да ўзросту дарагоўлі.

Газэты падаюць цэлы рад іншых падобных выступленьняў працаўнікоў урадавых установаў.

### Каторы ўжо раз?

„Экспрэс Поранны“ піша, што пас. Патэк аддаў Чычэрыну ноту, у якой польскі ўрад заяўляе аб закончэньні інцыдэнту ў справе забойства пас. Войкова.

Разам з тым нота выказвае гатоўнасьць Польскага ўраду пачаць перагаворы аб заключэньні гандлёвага і гарантыйнага (аб ненападаньні) дагавору між Польшчай і СССР.

Нешта выглядае, як казка пра белага бычка!

### Арышт камуністаў у Чэнстахове.

У зьвязку з апошнімі арыштамі ў Варшаве, паліцыя на днях арыштавала, як „камуністаў“, дванаццаць работніцкіх дзеячоў у Чэнстахове.

### Надужыцьці ў Гаспадарчым Банку ў Львове.

Апошняя рэвізія Гаспадарчага Банку ў Львове выкрыла рад надужыцьцяў, зробленых кіруючымі органамі ў галіне каротка-тэрміновага крэдыту і гандлёвых апэрацыяў. У зьвязку з гэтым дырэктар аддзелу Каньскі звольнены з пасады. Падрабязная рэвізія Банку йдзе далей.

## Заграніцай.

### Водгукі апошніх выпадкаў у Мястовай Радзе Вены.

Мястовая Рада Вены—цытадэль аўстрыяцкіх сац.-дэмакратаў. Але буржуазныя радныя, пасьля крывавай расправы буржуазіі з работнікамі—пачалі наступ і тут. Яны трэбуюць роспуску мейскай міліцыі, (створанай

# „Пад сінім небам“.*)

Перад намі—прыгожая сваей скромнасьцяй кніжачка: зборнік вершаў нашай маладой паэткі Натальлі Арсеньневай „Пад сінім небам“. Кніжачка толькі-што выйшла з друку,—йшчэ пахнець друкарскай фарбай і напамінае аб цяжкай працы друкароў, аб удасканаленых машынах і ўсей сучаснай высокай тэхніцы — з цудамі электрыкі й радыя. Але разгорнеш яе — і зразу пераносішся ў нейкі асаблівы край, такі далёкі ад усяе нашае сучаснасьці з яе цывілізацыйнымі заваяваньнямі, у край фантазіі і хараства, дзе пануе непадзельна **музыка гукаў**.

Натальля Арсеньнева запраўды творыць музыку гукаў. А гэта-ж — першы варунак, першая і найбольш істотная адзнака запраўднае паэзіі: толькі праз гэту музыку, толькі на крыльлях яе ўліваюцца ў нашу душу і выклікаюць у ёй жывыя водгукі тыя абразы, настроі і перажываньні, якія малюе паэт!

Дагэтуль мы былі знаёмы з Натальляй Арсеньневай толькі праз паасобныя вершыкі, зьмешчаныя ў розных беларускіх часопісях. Ужо і з гэных вершыкаў можна было зрабіць вывад, што ў асобе нашай маладой паэткі мы маем дзела з запраўднай **мастачкай слова**. Зборнік, які больш поўна выяўляе аблічча Арсеньневай, толькі пацьвярджае гэты вывад. І выхад у сьвет кніжачкі „Пад сінім небам“ мы мусім шчыра прывітаць, як новы цэнны ўклад у нашае краснае пісьменства.

Можна сказаць, што сярод песьняроў Заходняе Беларусі выявіліся як-быццам тры ідэалягічныя кірункі. Перадусім бачым групу пісьменьнікаў і паэтаў, якія прадстаўляюць як-быццам водгук, ці лепш—**прадоўжаньне даваеннага наша-ніўскага кірунку** з яго жальбамі—стагнаньнем з прычыны ліхое долі нашага народу, дый з даволі нявыразнымі нацыянальнымі і сацыяльнымі паглядамі, з нейкім рамантычным чаканьнем на цудоўнае вызваленьне народу з няволі, з верай, што неяк некалі доля сама прыйдзе да нас. Другі кірунак—гэта ўжо выразна **барацьбяны** кірунак, які ясна й выразна кажа, што „доля ня прыйдзе сама“, што яе трэба здабыць, адваяваць—мо' цаною ўласнае крыві й жыцьця. Тут гуртуюцца пераважна наймаладзейшыя паэтыцкія сілы. Урэшце—трэці кірунак як быццам адыходзе ад палючых нацыянальных і сацыяльных балячак нашага народу і абмяжоўваецца **шуканьнем красы, хараства** ўва ўсіх праявах нашага жыцьця, а перадусім—у прыродзе; апошняя і зьяўляецца для гэнага кірунку ня вычарпанай крыніцай натхненьня, даючы прадстаўнікам яго багатыя асабістыя перажываньні—часта яркія й красачныя, але ня зьвязаныя ані з сучаснасьцяй, ані з тэй жорсткай штодзеннай барацьбой, якую прымушаны вясьці за самы свой быт наш працоўны народ.

Да гэтага трэцяга кірунку мы мусім аднесьці і Натальлю Арсеньневу, судзячы па зьместу яе першага зборнічка, Арсеньнева абедзьвема рукома чэрпае фарбы і тоны для сваіх вершаў-малюнкаў з расчыненае для чуткае душы пясьняркі кнігі Прыгоды, з якой яна так зраднілася, якую так добра разумее і адчувае, ды якая дае Арсеньневай нязвычайна цікаўныя настроі і перажываньні. Нагляд над зьявішчамі Прыроды вытварае ў паэткі асаблівую жыцьцёвую філязофію, характэрную для нашае новае, нарастаючае інтэлігенцыі і абапёртую на магутным **імкненьні да жыцьця**, на веры, што **жыцьцё само й ёсьць шчасьце** (верш „Ты опытайся“), што „**мэта жыцьця—захаваць жыцьцё**“ („Мэта жыцьця“), што пад праменьнямі сонейка „нярадасных днёў трывогі“ мусяць прапасьці („Зімовы ранак“). І хаця „доля людзкая—усьцяж цярпець“ і „лятуцець аб яснасьці нязнанага спакою“ („Сьнег падаў...“),—але ў сэрцы паэткі ўстае „нейкая дзіўная сіла“ і родзе веру ў ёй, што „месяц, здаецца, рукой бы дастала, зоры сарвала-бы ў неба прасторы“. Паэтка мае здаровы жыцьцёвы оптымізм, мае **веру ў Чалавека**, — хаця ў яе так часта сустракаюцца і мамэнты зьнямогі, нейкага хістаньня, імкненьня да нечага няведамага, аб чым сама яна ня можа здаць сабе справы,—хаця ўражлівасьць яе душы гэткая хваравліва-вострая, што, здаецца, „рэзкае слова, увага адна“ можа забіць у яе сьветлыя настроі і атуліць душу сумам... („Шчасьце“).

* * *

Калі першыя нашы мастакі слова выраслі з народнае глебы, як самародкі, як піянэры на цяжкім, мучаніцкім шляху да адраджэньня беларускага Духа й беларускага Слова; калі яны былі прымушаны шукаць для сваей творчасьці ўзораў—апрача народнае паэзіі—у паэтыцкім творстве чужых нам народаў,—дык нашы наймаладзейшыя песьняры знаходзяцца ў шмат лепшых варунках: **ім ёсьць на чым і на кім вучыцца**, ня маючы патрэбы ўзірацца выключна на чужацкія ўзоры. Гэтак і Арсеньнева ў працягу свайго мастацкага вырастаньня мела магчымасьць карыстацца ня толькі чужой літэратурай, але й запраўднымі пэрламі сваей роднай беларускай літэратуры. Перакідаючы бегла зборнічак Арсеньневай, можам зразу-ж улавіць у творстве яе балей або меней значныя ўплывы трох нашых паэтаў: Янкі Купалы, Максіма Багдановіча і — адчасьці Канстанцыі Буйло.

У Купалы навучылася Арсеньнева карыстаецца шматфарбнымі калёрамі, рассыпанымі ўва ўсей прыродзе—на зямлі і ў нябёсах, навучылася браць чырвань і золата з пажоўклых лісьцяў васеньніх і з сонечных косаў ды так шчодра раскідаць іх навокал. Купала даў ёй і багатыя ўзоры рытмікі, так сьціслa заўсёды датарнаванае да зьместу й характару вершу. За ягоным пачынам і Арсеньнева ўводзе слоўнікавыя новатворы, калі ёй нехапае слоў з нашае будзённае гутаркі. Урэшце, Купалавым уплывам трэ' тлумачыць тую сьмеласьць і размах, з якімі Арсеньнева малюе запраўды-ж мастацкія абразы прыроды. І іскрацца й пяюць у яе гэтыя словы й гукі, як і ў творах яе вучыцеля. Учытайцеся, прыкладам, у адзім з лепшых яе асеньніх вершаў без загалоўку („Сыплюцца з клёнаў лісты...“), і вам уваччу стане купалавы верш „Адцьвітаньне“: тут—не сьляпое насьледаваньне, а ўжываньне тых-жа гукавых эфэктаў, тых-жа спосабаў прыгаданьня гукамі асеньняга настрою, што і ў Купалы. І можам сьмела сказаць, што Арсеньнева **вырастала на тэхніцы Купалы**.

Інакш выяўляецца ўплыў на Арсеньневу Максіма Багдановіча. Як і Багдановіч, яна з малюнкамі прыроды заўсёды злучае той ці іншы глыбейшы настрой, тое ці іншае асабістае перажываньне, рэфлексію, думку — разважаньне. Толькі-ж пад той час, як Багдановіч заўсёды ўдарае ў сумныя тоны, ні на мамэнт не забываючыся, што за плячыма ў яго ўсьцяж стаіць зданьнё перадчаснае сьмерці, — тон Арсеньневай, хоць і задумлёны, але-ж больш жыцьцярадасны, а замест кволых фарбаў, у якіх так любуецца Багдановіч, Арсеньнева поўнымі жменямі кідае чырвань і золата, або глыбокую і празрыстую сінь нябёсаў, якая такі дзіўны супакой улівае ў душу чалавека. Але, паскольку Ма-

*) Натальля Арсеньнева. „Пад сінім небам“. „Віленскага Выдавецтва“ Б. Клецкіна. Фармат 8⁰, страніц 144.

с.-д.) і замены яе агульна-гаспадарственнай паліцыяй, якая так вызначылася ў апошні час (на службах буржуазіі). У сваіх трэбаваньнях буржуазныя радныя вельмі рашучыя: крычаць, абзываюць с.-д. камуністамі, не даюць ім гаварыць.

Вось і навука сац.-дэмакратам. Не цалуйцеся з буржуазіяй і ня служыце ёй так верна.

### Пратэст прадстаўніка ССРР у Вене.

Прадстаўнік ССРР у Вене запратэставаў проці прамовы віцэ канцлера Гортлеба, які абвіняў у прыняцьці ўчасьця ў апошніх выпадках урадоўцаў гандлёвай дэлегацыі ССРР у Вене: Лянгіеля і Рапапорта.

### Мытная ўнія Чэхаславакіі з Аўстрыяй?

У сувязі з страхам дзяржаваў Антанты, што Аўстрыя раней ці пазьней далучыцца да Нямеччыны і гэтак яе вельмі ўзмацуе, — спрытную камбінацыю прыдумаў чэскі кіраўнік заграінчнае палітыкі, міністар Бэнэш. Ен запрапанаваў вялікім дзяржавам, каб аддалі Аўстрыю пад „апеку“ Чэхаславакіі, якая выявілася-бы ў утварэньні мытнае ўніі Аўстрыі з Чэхаславаччынай. Абедзьве гэныя дзяржавы мелі-бы тады супольныя мытныя граніцы, а паміж імі ніякіх мытных кардонаў ня было-б. Гэта, кажа Бэнэш, вельмі было-б карысна і для Чэхаславакіі, бо адчыніла-бы граніцы Аўстрыі для чэхаславацкіх сельска-гаспадарчых прадуктаў, і для Аўстрыі, бо тая мела-бы магчымасьць бязмытнага збыту сваіх багатых фабрычных вырабаў у Чэхаславакіі.

Як аднясуцца да гэтага вялікія дзяржавы, — няведама. Можна толькі напэўна сказаць, што Нямеччына на гэта ніколі-б не згадзілася.

Цікаўна, аднак-жа, вось што: пераможцы пасьля вайны першым чынам парэзалі Аўстрыйскую 50-міліённую дзяржаву на дробныя часткі, утварыўшы з іх маленечкія і слабенькія мілітарна й гаспадарча гаспадарствы. А вось з боку гэных самых новых гаспадарстваў бачым ізноў імкненьне да аб'яднаньня! Відаць, вымогі жыцьця—дужэйшыя за палітычныя мяркаваньні дыпляматаў.

### „Аншлюс“ за ўсялякую цану.

Нямецкія нацыяналісты падкрэсьліваюць жаданьне „аншлюсу“ (прылучэньня Аўстрыі да Нямеччыны) за ўсялякую цану. У гэтым жаданьні, — кажуць яны, — ня можа быць астаноўкай навет пагроза спыненьня эвакуацыі прырэйнскіх правінцыяў.

### Развал канфэрэнцыі па марскому разбраеньню ў Жэнэве.

Знамянітая канфэрэнцыя па разбраеньні на моры (чытай па ўрэгуляваньні суадносінаў між марскімі сіламі Амэрыкі, Англіі і Японіі) на пярэдадні распаду. Удзельнікі канфэрэнцыі пачалі разьяжджацца па дамох. Яшчэ ў панядзелак адбылося апошняе пасэджаньне.

### Незадаволеньне Куліджа.

Прэзыдэнт Злучаных Штатаў „разачараваны“ сваімі прыяцелямі—Англіяй і Японіяй, а асабліва першай. Ен нібы хацеў зьменшыць марскія сілы ўсіх, а тут англійскія прапазіцыі скіраваны якраз у процілежны бок. Пяе, проста як салавей?

### Ня хочуць стаць на другое месца.

Аказваецца, што Амэрыка канфэрэнцыяй „па разбраеньню“ хацела прыкрыць свой запраўдны намер выбудаваць флёт найсільнейшы ў сьвеце. А тут ёй запрапанавалі... другое. Крыўда! Так гаварыў той-жа Кулідж на канфэрэнцыі прэсы.

### Пэсымістычны тон прэсы.

Прэса зацікаўленых дзяржаваў настроена зельмі пэсымістычна, — з прычыны развалу. Як відно, стаячая за газэтамі буржуазія шмат чаго спадзявалася ад канфэрэнцыі. Па крайняй меры думалі мець сабе добрую варту, забясьпечваючую іх ад усялякіх няпрыемнасьцяў у сэнсе найбольшага вызыску працоўных. Значыць — не падзяліліся.

### Антыбальшавіцкая Ліга ў Англіі.

У Лёндане з'арганізавалася „Ліга абароны парадку ў Эўропе“ (даволі гучна і „культурна“). У склад Лігі ўваходзяць рад вядомых грамадзкіх і палітычных дзеячоў. Ліга ставіць мэтай — барацьбу з крайнімі цячэньнямі і ў першую чаргу з бальшавізмам.

### А Чэмбэрлен пяе іншае.

Чэмбэрлен заявіў у парляманьце, што Англія не намерана абвастраць свайго канфлікту з ССРР. Англійскі ўрад гатоў нібы разгледзіць умовы, які-б прапанаваў Радавы ўрад для ўзнаўленьня дыпляматычных зносінаў між Англіяй і ССРР. Як відна—смачнае кошцы сала.

Але, дадае Чэмбэрлен, ССРР павінна зьмяніць мэтоды зносінаў на больш падходныя да міжнародных (буржуазных) звычаяў. Вядома — усё павінна быць „чысто и благородно“... па ўказцы п. Чэмбэрленаў.

### Закон аб трэд-юніонах.

Ніжэйшая палата англійскага парляманту (Сойм) прыняла новы закон аб трэд-юніонах (прафэсіянальных саюзах англійскіх работнікаў), па якому справа забастоўкі, навет на эканамічным груньце, лічыцца процідзяржаўнай справай і назаўсёды забараняецца!

А п. п. Макданальды, будучы міністрамі Яго Вялічаства, так голасна хвалілі англійскую свабоду...

### Атака з паветра на Лёндан.

Над Лёнданам адбыліся цікаўныя паветраныя манэўры. Адна эскадра лятуноў, як быццам варожая, зрабіла налёт на сталіцу Англіі, а другая—бараніла места. І вось, ня гледзячы на ўсе прынятыя меры абароны, аказалася, што „варожыя“ лятуны мелі поўную магчымасьць абкідаць Лёндан бомбамі!

### Водгукі камуністычнага працэсу ў Парыжы.

У сваім часе мы паведамлялі аб працэсе выдатных прадстаўнікоў Кам. Партыі Францыі, абвінавачаных у шпіянажы на карысьць ССРР. Ня гледзячы на тое, што на судзе было даказана, што ўся гэтая справа сфабрыкавана паліцыяй і дакумэнты падсунуты паліцыяй-жа праз правакатараў, усе амаль падсудныя засуджаны на многалетнія турэмныя кары і вялікія грашовыя штрафы.

У сувязі з гэтым „Известия“ зварачаюць увагу французскага ўраду на вынікі, якія можа мець падобная фабрыкацыя штучных шпіёнскіх працэсаў для адносінаў між Францыяй і ССРР. Прыгавор, пішуць „Известия“, паказывае, што ў выніку апошняй сэсіі Рады Лігі Нацыяў стварыўся супольны фронт буржуазных міністэрстваў унутраных спраў яскрава правакацыйнага характару. У тэй тактыцы, якую тасуе французская паліцыя, ясна відаць мэтады Джансона Хікса. Гэтая тактыка зьяўляецца простай копіяй іх. Сам прысуд зьяўляецца чыста палітычным дакумэнтам, якога паўстаньне тлумачыцца нездаровай палітычнай атмасфэрай. „Известия“ кажуць далей: „Мы мусім падкрэсьліць, што пры прыязных адносінах між Францыяй і Саветамі падобныя паступкі недапушчальны і шкодны. Мы мусім зазначыць, што існаваньне падобных зьявішчаў пярэчыць тэндэнцыі ўзмоцніць француска-савецкія адносіны і што паўтарэньне падобных зьявішчаў можа адыграць вельмі няўдзячную ролю ў разьвіцьці савецка-французскіх адносінаў!

Цікава, як адкажа на гэта французскі ўрад?

### Румынская апазіцыя за прынца Кароля.

Павадыр сялянскай партыі праф. Іорга рашыў выступіць проці Рэгенцыйнай Рады і трэбаваць закліканьня на пасад прынца Кароля.

Па чутках, сялянская партыя маніцца склікаць у Букарэшце вялікі сялянскі зьезд, каб зрабіць дэманстрацыю проці Братыяну і трэбаваць яго адстаўкі.

Вось-жа „на шыпцы“ ня ўсе спакойна!

### Неспакойная Македонія.

З імем Македоніі зьвязваецца ў Эўропе паняцьце вечна бунтуючай краіны. Македонцы зьяўляюцца пераходным па мове народам між сэрбамі і Баўгарамі, да апошніх усё ж значна бліжэй. Адміністрацыйна падзелена між Сэрбіяй, Баўгарыяй і Грэцыяй. Сымпатыі македонцаў на баку Баўгарыі, дзе ўвесь час істнаваў камітэт барацьбы за асвабаджэньне сэрбскіх і грэцкіх частак. Барацьба мела характар партызанцкі і тэрорыстычны.

Па апошніх вестках, сэрбскія македонцы, бачучы няўдачу папярэдняе тактыкі, вырашылі змагацца легальна і ўвайшлі ў паразуменьне з партыяй Радіча, пры дапамозе якой хочуць правясьці сваіх прадстаўнікоў у Скупшчыну (сэрбскі парлямант). Гэта знаходзіцца ў сувязі з „сэпарыстычным“ рухам наагул у Сэрбіі, у якім прымаюць учасьце горцы, харваты і славінцы.

### Японія ў Манджурыі.

Як паведамляе карэспан. „Бэрлінэр Тагебляту“, факт назначэньня Ямаматы на становішча старшыні чыгункавай кампаніі Паўднёвай Манджурыі, лічыцца савецкай прэсай актам далейшага ўзмацненьня сучаснай імпэрыялістычнай палітыкі японскага ўраду. Японскія газэты паведамляюць, што Ямамата распрацоўвае плян рэарганізацыі чыгункавай кампаніі, плян аканчальнай перабудовы яе з арганізацыі эканамічнай на палітычную. У сувязі з назначэньнем Ямаматы тая-ж японская прэса паведамляе, што японскі ўрад дае кампаніі паўнамоцтвы на вядзеньне спраў народнай асьветы, паліцыі, таможні (мытніц), а таксама і дыпляматычныя паўнамоцтвы. Яна мае быць арганізавана на ўзор былой англійскай Ост-Індыйскай Кампаніі.

Паўднёва Манджурская Кампанія мела ўжо ў запраўднасьці ўсе пералічаныя паўнамоцтвы, апрача дыпляматычных. Цяпер-жа гэтаму фактычнаму стану будзе дана зусім афіцыяльнае аформленьне з боку японскага ўраду з даданьнем дыпляматычных правоў. Такім чынам навет афіцыяльна справамі Манджурыі будзе кіраваць ня кітайскі ўрад, або народнае прадстаўніцтва, а ўрад японскай акцыянэрнай кампаніі!

Бясстыдзтва японскага імпэрыялістычнага капіталу дайшло, як відаць, да свайго апогэя. Далей няма куды ісьці. У кожнымжа выпадку справа гэтая прычыніцца да стварэньня далейшых канфліктаў з ССРР.



# ХРОНІКА.

**Прэм'ер у Вільні.** Старшыня рады міністраў, маршалак Пілсудскі, прыяжджаў на колькі дзён у Вільню і 1-га жніўня выехаў назад у Варшаву.

У канцы тыдня мае прыехаць у Вільню на колькі дзён міністар унутраных спраў Складкоўскі.

**Выбары ў мястовыя рады.** На 4-га верасьня вызначаны выбары мястовых самаўрадаў у Глыбокім, Дзісьне, Докшыцах, Вялейцы (пав.), Радашковічах, Падбродзьдзі і Смаргонях.

**Ужываньне мясцовых моваў.** Польская прэса з прыкрасьцяй адзначае, што жыды пачалі шырокую агітацыю, каб жыдоўскае насяленьне карысталася правам ужываньня жыдоўскае мовы ў паданьнях аб падаткавыя справы ў Скарбовую Ізбу—на падставе цыркуляру Міністэрства Скарбу, які гэта дазваляе. Карыстайцеся-ж гэтым правам і беларусы!

**Курсы для вучыцялёў Беларускіх Гімназіяў у Радашкавічах.** Курсы гэныя, уладжаныя Т-вам Беларускае Школы ў Радашкавічах дзеля здабыцьця польскіх „кваліфікацыяў“ для вучыцялёў беларускіх гімназіяў, ужо пачалі сваю працу. Дазвол на курсы дадзены міністэрствам асьветы. Курсам прызнаны ўрадавыя правы.

**Выстаўка беларускае і ўкраінскае прэсы ў Варшаве.** З ініцыятывы „Славянскае Лігі ў Польшчы“, у Варшаве паміж 3 і 18 верасьня ладзіцца Першая Выстаўка Беларускае і Украінскае Прэсы. Камітэт Выстаўкі зьвярнуўся да беларускіх культурных дзеячоў у Вільні з просьбай дапамагчы яму, пазычаючы свае экспанаты.

Як ведама, у Вільні ў мінулую восень адбылася такая выстаўка беларускае прэсы на ўладжаным абходзе 20-лецьця беларускае прэсы. Трэба думаць, што выстаўленыя тут экспанаты будуць пазычаны Варшаве.

**Водгукі канфэрэнцыі „жывых нябожчыкаў“.** У апошнім нумары сваей „Сялянскай Нівы“ „жывыя нябожчыкі“ з ярэмічавага „Сельсаюзу“ з захапленьнем апавядаюць аб урачыстых прамовах учасьнікаў асаблівага роду „канфэрэнцыі“, якую нядаўна былі наладзілі Ярэміч ды Рагуля.

Аказваецца, як прызналіся самі арганізатары „канфэрэнцыі“, што група сельсаюзьнікаў, выкіненых з партыі: паны Ярэміч, Рагуля й Більдзюкевіч, — склікалі на нараду ўсіх „верных“ ім людзей—выключна па свайму асабістаму выбару, — а перадусім: усіх служачых у рэдакцыі і адміністрацыі „Сялянскае Нівы“, наборшчыкаў з друкарні Ярэміча і кс. Станкевіча і іншых залежных ад гэных паноў людзей, якіх абвясьцілі „дэлегатамі“ ад тых паветаў, **дзе каторы ўрадзіўся...** Праўда, прыехала й колькі сялян — людзей збаламучаных, якім запахнулі „прагоны“ й добрая выпіўка — па рэцэпту Паўлюкевіча! Дый гэтак „нарабленых“ дэлегатаў, як сцьвярджае „Сял. Ніва“, набралася толькі... 22! Газэта тлумача адсутнасьць сялянства на „канфэрэнцыі“, ці нарадзе асабістых прыяцеляў і служачых Ярэміча, Рагулі і кс. Станкевіча — тым, што быццам сяляне „ня мелі грошы на прыезд“; забылася, відаць, што ў рассыланых запросінах паны Рагуля й Більдзюкевіч **дакляравалі кожнаму зварот коштаў падарожы!**

Што-ж рабілі гэныя „дэлегаты“?, запрошаныя па выбару самых арганізатараў „канфэрэнцыі“? Ну, ведама-ж: выбралі ў Цэнтр. Камітэт „Сельсаюзу“ тых, хто выбраў іх ды зрабіў „дэлегатамі“ ад паветаў і добра пачаставаў...

Звычайна ў кожнай партыі цэнтральныя органы выбіраюцца **партыйным зьездам.** Ну, для Рагуляў і Ярэмічаў гэта—ня ўказ: у іх і „канфэрэнцыя“ мае права ня радзіць толькі, а і выбіраць Ц. К., бо каб быў запраўды

---

ксім Багдановіч у сваіх разважаньнях зачапляе шырокія агульна-людзкія праблемы, пастольку Арсеньнева перадусім зьяўляецца індывідуалісткай: яе цікавяць найбольш яе ўласныя настроі і перажываньні, — праўда, не пазбаўленыя тых-жа агульна-людзкіх мамэнтаў. Прыраўнуйце хаця-бы найбольш багатыя рэфлексіямі вячэрныя разважаньні Арсеньневай да вершаў Багдановіча, і вы зразумееце, як многа чыста свайго асабістага, індывідуальнага ўкладае Арсеньнева ў сваю творчасьць. Злучае йзноў Арсеньневу з Багдановічам нахіл да народнага творства, выкарыставаньне як формаў народнае паэзіі, так і тэмаў з народных легендаў, казак, вераваньняў.

Усё гэта сама паэтка сцьвярджае ў адным з пачынальных вершаў зборнічка, кажучы аб сваіх вершах:

Сонца вясьнянага першыя косы,
Грукат крыніцаў і раньнія росы,
Восені жоўта-чырвонай адцені,
Смуткі зьмярканьня, начы лятуценьні,
Сэрца развагі і сэрца парывы,
Песьні, што ўлетку плывуць панад нівы,
Плач лясуна, карагод русалчыны,
Чары і зводы начное часіны,
Смутнай балотніцы плач—прычытаньне,
Роднай старонкі ціхое каханьне,
Усё, што ў сэрцы жыве і пяе, —
Вершы мае.

Калі мамэнты кволасьці Максіма Багдановіча паўстаюць на груньце ягонае хваравітасьці і вечнае пагрозы хуткае сьмерці, дык прычыну выяўленьня такіх-жа мамэнтаў у Арсеньневай трэба шукаць у нечым другім: у яе жаноцтве. Вось, у гэтым яна сустракае родную душу ў асобе паэткі нашаніўскае пары Канстанцыі Буйло, — і ня дзіва, што ў творстве Арсеньневай знаходзім некатарыя сьляды ўплыву й апошняе. Далёкая ад эротызму Буйлы, Арсеньнева, як і тая, знаходзе ў харастве Прыроды лек на ўсе свае болі й сумы (прыраўнуйце верш Арсеньневай „Калі людзі пакрыўдзяць цябе“ да Буйлы „У лесе“). У гомане лесу і адна і другая пясьнярка чуе нейкія таемныя апавесьці з даўно мінулых год і адтварае іх аднолькава. Але на гэтым, здаецца, аналёгія з Буйлянкай і канчаецца.

* * *

Ужо з дадзенага намі вышэй кароткага разгляду ўплываў на Арсеньневу творства Купалы, Багдановіча й Буйлы відаць, што ўплывы гэныя адбіліся ня гэтулькі на **шталтаваньні душы** нашае паэткі, колькі на яе **паэтыцкай тэхніцы і на стылю.** Яны далі ёй кірунак у выбары матэрыялу дзеля творства, паказалі, чаго трэба вымагаць ад паэта, які хоча вершамі сваімі нешта сказаць другім, памаглі апанаваць і форму верша, і мову, ды — урэшце — раскрылі перад ёй усе тайны, што з рытмічнага слова робяць запраўдную музыку, — і Арсеньнева з усяго гэтага скарыстала, колькі здолела. Але Арсеньнева аднагасна захавала далком сваю індывідуальнасьць у адносінах да **зьместу** твораных вершаў, захавала сваю **ўласную жыцьцёвую філязофію,** захавала чыста жаноцкую **мяккасьць і ўражлівасьць** на праявы жыцьця, на яго сумы і гора. І хоць паэтка ўрадзілася далёка ад Беларусі — пад яркім сонцам палудня, яна — іменна дзякуючы апошняй рысе — так палюбіла Беларусь і народ беларускі, што аддала свае творскія сілы на служэньне яму... Бо-ж яркае сонца паўдзённае, блакітнае мора, ды вечнае сьвята ў багатай паўдзённай краіне — не ўзварушаюць так яе сэрца, як жыцьцё нашае многапакутнае зямліцы:

...бо ля сьветлага сіняга мора
Вечна аб шчасьці ідуць разгаворы,
Вечна там сонца гарыць.

Бо там бяз працы, а родзяць зярняты,
Бо там чужое нам вечнае сьвята,
Тамака сэрца маўчыць.

Тут-жа ў нас па гайкох, пералесках
Посьле зімы зацьвітаюць пралескі,
Сьцюжу зьмяняе вясна.

Тут пасьля гора жыцьця шлях сьвятлее,
Тут пасьля сьлёз расцьвітаюць надзеі,
Тутка і ў сэрцы вясна!

(*„Лятуценьні“*).

І вось гэтай сваей **чуласьцяй на боль і пакуту нашага гаротнага народу,** у жыцьці якога кожную сьветлую часіну — такую рэдкую!—Арсеньнева ўмее цаніць і даражыць ёю, — паэтка нам асабліва блізкая і родная, ня гледзячы на індывідуалістычны характар творства яе. Родная яна нам і праз свае **высака гуманітарныя пачуцьці,** праз сваю **любоў да Чалавека,** шчасьце якога заўсёды рупіць яе, а гора й мукі цяжкі сум родзяць у яе душы. Урэшце, творства Арсеньневай мае вельмі многа рысаў — супольных з **народнай паэзіяй:** і па форме, і па зьместу... Асабліва ў апошнія гады паэтка творыць цэлы рад вельмі ўдалых насьлядаваньняў і перапрацовак народных легендаў і апавяданьняў — і ў гэтым кірунку, здаецца, паважна думае йсьці далей, шукаючы тут найдасканальшых формаў дзеля выяўленьня свайго таленту.

У дні вострае грамадзкае і палітычнае барацьбы, калі ўсе сілы народу йдуць на актыўнае ці хаця пасыўнае змаганьне за самае свае існаваньне, людзі звычайна праходзяць няўважліва міма ўсяго, што ня мае простых адносінаў да гэтае барацьбы. Дык мо' шмат каму здасцца, што выхад кніжкі Арсеньневай ня мае сяньня вялікшага значэньня для беларускага руху. Такі пагляд быў-бы бязумоўна памылковы: бо ж краса, быццам тыя Багдановічавы васількі ў жыце, аздабляе і ўзбагачывае жыцьцё, незалежна ад таго, ці ў ёй выяўлены нейкія карысныя з сучаснага пункту гледжаньня думкі; — бо краса, паводле справядлівага азначэньня Максіма Багдановіча, сама ўжо ёсьць „спажытак дзеля душы“. Такую красу творыць Арсеньнева і такі „спажытак дзеля душы“ дае нам у сваіх вершах. І калі йшчэ сягоньня індывідуальнасьць паэткі ня мае сілы аказазаць той ці іншы ўплыў на кірунак грамадзкае думкі, дык твораная ею музыка гукаў робіць душу нашу больш здольнай „зразумеці сусьветныя сумы й жалобы“, бо завастрае нашу ўражлівасьць наагул, бо пабуджае глыбей заглядацца ў самых сябе.

„Добра быць коласам, — кажа Багдановіч у сваім „Апокрыфе“,— але шчасьліў той, каму давялося быць васільком“. Такое шчасьце выпала на долю нашае маладое паэткі: яе творы — гэта запраўды быццам тыя сіненькія васілёчкі пад нашым сінім небам — сярод жыта, узрашчонага цяжкай працай і барацьбой селяніна. А селянін — як сцьвярджае Багдановіч — якраз пяе: „Няма лепш цьвяточка над васілёчка“ — І гэтай песьняй дае найлепшую ацэнку тварцом красы, да якіх маем поўнае права залічыць Натальлю Арсеньневу.

Вільня, 24.VII 1927. **Ант. Навіна.**

